


# Наша Слова




-праграма

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 43 (307) 24 — 30 кастрычніка 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

БЕЛАРУСЬ АДБУДУЕ МОЛАДЗЬ Стар.2.

ЧАМУ СЛАБАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ? Стар.4.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У Менску прайшоў** Нацыянальны кангрэс у падтрымку Канстытуцыі супраць дыктатуры, а таксама шматтысячны мітынг прыхільнікаў дэмакратыі. У суботу ж і нядзелю ў Палацы спорту праходзіў Усебеларускі народны сход, на якім Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пагадзіўся з Вярхоўным Саветам, каб 24 лістапада адбыўся рэспубліканскі рэферэндум. Пра што гаварыў Прэзідэнт на Усебеларускім народным сходзе, можна прачытаць у рэспубліканскіх газетах, якія выйшлі ў свет у нядзелю, 20 кастрычніка.

○ ***Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і Таварыства беларускай школы распачалі збор подпісаў*** *пад патрабаваннем да Прэзідэнта і ўрада краіны забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове. Закон аб мовах, распачаты на 10 гадоў, не выконваўся і ў лепшыя часы, а сёння і зусім забыты.*

○ **14 кастрычніка наша краіна святкавала новае свята** — Дзень маці.

○ ***Менскаму міжнароднаму адукацыйнаму цэнтру споўнілася два гады.*** *За гэты час у цэнтры мелі кантакты паміж сабой палітыкі, дэпутаты, бізнесмены, журналісты, студэнты — звыш 20 тысяч чалавек.*

○ **На канец кастрычніка запланаваны** візіт беларускай дэлегацыі на чале з першым намеснікам міністра знешніх эканамічных сувязяў А.Дабрашудравым у шведскі горад Крысціанштат. Мяркуецца адкрыццё ў Швецыі беларускага гандлёвага бюро.

○ ***Выканаўчым камітэтам Партыі разумнага сэнсу*** *(старшыня Іван Каравайчык) прынята рашэнне аб стварэнні Камітэта па правах чалавека. Старшынём яго прызначаная беспартыйная Кацярына Садоўская.*

○ **Як стала вядома з Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь,** усур'ёз абмяркоўваецца ідэя выдання літаратурна-мастацкага часопіса "Иностранная литература" (заснавальнікам яго будзе выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Пакуль што часопіс існуе ў праекце, і таму яшчэ дакладна невядома, на якой мове ён будзе выходзіць: толькі на расійскай або на расійскай і беларускай. Але назва часопіса "Иностранная литература", здаецца, гаворыць сама за сябе...

○ ***У Менску прайшоў*** *Другі міжнародны фестываль монаспектакляў "Я". У ім удзельнічалі артысты з Беларусі, Расіі, Украіны, Балгарыі, Польшчы, Кіпра, Летувы і Казахстана. Лаўрэатам фестывалю стала вядомая актрыса Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Алена Унукава.*

○ **У друку з'явілася інфармацыя,** што накладам у 87 тысяч паасобнікаў у свет выходзіць кніга "Первый Президент Республики Беларусь". Для России — тыражом 120 тысяч. Аўтар шэдэўра — Уладзімір Якутаў.

○ ***Вуліца ў Менску,*** *размешчаная ў раёне праспекта Машэрава, цяпер будзе называцца Іерусалімскай. Ганаровая цырымонія адкрыцця памятнай дошкі, якая апавяшчае аб тым, што яна названа ў гонар 3000-годдзя Іерусаліма, адбылася 17 кастрычніка ў прысутнасці прадстаўнікоў Менскага гарвыканкама, пасольства дзяржавы Ізраіль і грамадскасці сталіцы.*

## Супрацьстаянне не перарасло ў крывавы канфлікт

***Чаканне крывавай развязкі канфлікту паміж Прэзідэнтам і парламентам на працягу апошняга тыдня трымала ў напружанні ўсю краіну. Сёння з палёгкаю можна сказаць — самага страшнага не адбылося.***

У пятніцу сілы аб'яднанай апазіцыі правялі Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі. У ім узяло ўдзел звыш 1200 дэлегатаў з усёй краіны. Былі прадстаўнікі ад усіх буйных палітычных партый (акрамя камуністаў), грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў і прафсаюзаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што па сваёй легітымнасці ні ў чым не саступаў "народному собранию". Кангрэс не ставіў за мэту прыняцце рашэнняў, якія бы мелі сілу закону.

Палітыкі з рознымі поглядамі былі аднадушныя ў ацэнцы становішча, у якім апынулася Беларусь дзякуючы намаганням Прэзідэнта і яго каманды. Вынікі двухгадовага кіравання А.Лукашэнкі гавораць самі за сябе. Замежныя крэдыты ідуць на будаўніцтва катэджаў, штодзённа парушаюцца правы чалавека, ідзе разбурэнне асноў беларускай дзяржаўнасці, эканомікі і нацыянальнай культуры.

Аб гэтым з трыбуны кангрэса гаварылі Генадзь Карпенка, Юрый Хадыка, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Бухвостаў, Ніл Гілевіч і іншыя выступоўцы. Суботні мітынг стаў лагічным працягам кангрэса. Да апошняга часу было невядома, што рыхтуюць мітынгоўцам "стратэгі" з прэзідэнцкай адміністрацыі, ці здольныя яны пераступіць апошнюю мяжу і праліць кроў? Мяркуючы па колькасці грузавікоў са спецназам, БТРаў і іншай вайсковай тэхнікі, што з'явіліся на менскіх вуліцах раніцай 19 кастрычніка, такі план у іх быў. Напярэдадні газета "Свабода" апублікавала дакладную запіску палкоўніка Унутраных войскаў А.Шкуна свайму начальству, у якой гэты ваяка рапартаваў, што снайперы і аўтаматчыкі падрыхтаваны і гатовы адкрыць агонь. Расійскіх інструктараў спецназа, якія маюць баявы досвед, планавалася выкарыстаць ва ўсіх падраздзяленнях. Быў разгорнуты і канцлагер на 2,5 тысячы вязняў.

Але ўсіх людзей ужо запалохаць немагчыма. Звыш 15 тысяч чалавек прыйшло раніцай 19-га на плошчу Я. Коласа — месца збору маніфестантаў. Ёсць звесткі, што ў гэты дзень у школах горада былі зачынены дзверы і школь-

(Заканчэнне на с.2.)

## Навіны "Бацькаўшчыны"

5-6 кастрычніка ў Менску прайшла арганізаваная Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага замежжа". Яе правядзенне стала вынікам ажыццяўлення пастановы "Бацькаўшчыны" аб правядзенні раз на два гады падобных сустрэчаў, першая з якіх адбылася ў 1994 годзе.

Да ўдзелу ў сёлетняй канферэнцыі былі запрошаныя звыш сотні асобаў — сябры беларускіх суполак і навукоўцы як з Беларусі, так і з іншых краінаў — ЗША, Канады, Латвіі, Летувы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі, Эстоніі. На жаль, прыехаць на яе здолелі не ўсе запрошаныя, бо аплаціць іхнія выдаткі на ўдзел у сустрэчы "Бацькаўшчына" не змагла, а Міністэрства культуры не захацела. Нягледзячы на гэта, беларускае замежжа на канферэнцыі было прадстаўлена вельмі шырока — колькасць яе ўдзельнікаў склала 160 асобаў.

У першы дзень канферэнцыі адбылося пленарнае пасяджэнне яе ўдзельнікаў, якія чыталі свае даклады і паведамленні. А ўвечары сабраныя ўшанавалі дзевяць беларускай культуры замежжа, якія сёлета сталі юбілярамі — Янку Запрудніка (ЗША) і Аляксандра Надсана (Вялікая Брытанія), якія адзначылі 70-годдзе, ды Саграта Яновіча (Польшча), якому споўнілася 60.

Наступным днём працавалі дзве секцыі — блізкага і далёкага замежжа. Інтарэс навукоўцаў да канферэнцыі аказаўся нечакана вялікім. У выніку, нават нягледзячы на адсутнасць часткі запрошаных, не ўсім прысутным хапіла часу на ўдзел у дыскусіях. Гэта дазволіла арганізатарам канферэнцыі меркаваць, што наступная падобная сустрэча акажацца не менш цікавай і плённай.

Нечакана для ўсіх правядзенне канферэнцыі стварыла праблемы для "Бацькаўшчыны".

— Мы не маем магчымасці выдаваць матэрыялы беларускага замежжа. Гэтаму замінае існаванне ў краіне цэнзуры, — сказала ў час гутаркі з карэспандэнтам "Нашага слова" старшыня Рады "Бацькаўшчыны" сп-ня Г.Сурмач. — Сёлета, — працягнула яна, — мы планавалі выдаць кнігу пра Беларусь амерыканскага даследчыка Янкі Запрудніка, але зрабіць гэта "Бацькаўшчыне" не дазволілі. Таму ёсць падставы чакаць, што складанасці ўзнікнуць і з выданнем матэрыялаў канферэнцыі. Нягледзячы на гэта, вывучэнне культуры беларускага замежжа будзе актыўна працягвацца і надалей.

Частка беларускіх арганізацыяў замежжа — удзельніцы канферэнцыі былі атрыманы ўрадавыя запрашэнні да ўдзелу ў так званым "Всебелорусском собрании". Удзельнікамі канферэнцыі была прынятая заява пра адмаўленне ад удзелу ў гэтай акцыі.

6 кастрычніка адбылося пасяджэнне Вялікай і Малой Радаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

На пасяджэнні Вялікай Рады было абмеркаванае пытанне аб даце і месцы правядзення з'езда беларусаў свету. Вялікай Радай прынята рашэнне правесці чарговы з'езд 26-27 ліпеня наступнага года ў Менску. Разам з тым прадугледжана магчымасць змены даты і месца з'езда ў выпадку, калі з нейкіх прычынаў правядзенне яго ў сталіцы стане немагчымым.

На пасяджэнні Малой Рады "Бацькаўшчыны" прынятае рашэнне пачаць падрыхтоўку да з'езда. Створаны яго арганізацыйны камітэт, ганаровым старшынём якога стаў Васіль Быкаў, а сустаршынямі — прэзідэнт "Бацькаўшчыны" Радзім Гарэцкі і Пётр Краўчанка.

Галоўнай тэмай з'езда стане захаванне ў свеце беларускай прысутнасці і стварэнне фонду дзеля яе падтрымкі.

У.П.

**На здымку:** Прэзідыум канферэнцыі: акадэмік **Радзім Гарэцкі**, доктар **Янка Запруднік**, старшыня Рады "Бацькаўшчыны" **Ганна Сурмач**, прафесар **Анатоль Сабалеўскі**.

**Фота У.КАРМІЛКІНА.**

*Рэха*

## Балюча, трывожна за Беларусь

Людзі добрыя, якія вы розныя! І як па-рознаму выкарыстоўваецца вялікі боскі дар — слова! Зноў гвалтоўна навязваецца рэферэндум. Натоўпам прапануецца прымаць такую складанейшую рэч, як Канстытуцыя! Дзеля чаго? Зноў — тое ж самае спадзяванне на натоўп, які сам сябе можа "здаць" у рабства. І вось па радыё, па дзяржаўным тэлебачанні ідзе, нясецца шквал прамоў, разлічаных на атуманьванне розуму. Ні селянін, ні рабочы, ні нават служачы, каго ўмоўна называюць інтэлігентам, не ў сілах уцяміць сакрэт усіх прапагандыцкіх штучак. Ён не прывучаны ўглядацца ў газетныя артыкулы ды разгадваць палітычныя галаваломкі. Да таго ж, ён карыстаецца нейкім адным выданнем, накшталт "Советской Белоруссии", "Народнай газеты" ці нават раёнкі, бо ў ёй ёсць мясцовыя навіны, праграма тэлебачання, каб з'арыентавацца, калі на экране будзе "Новая ахвяра". Ён зdroбіраваны, адурманены. Таму як скажа начальства ісці на рэферэндум — пойдзе. Скажуць выкрасліць у бюлетэні тое ці іншае пытанне — будзе зроблена. Скажуць, напрыклад, з'явіцца на вылучэнне ўдзельніка Усебеларускага сходу — з'явіцца. А там рукой махне, маўляў, няхай начальнік будзе дэлегатам — той, мабыць, і праект Канстытуцыі чытаў... А просты чалавек? А хто яго будзе слухаць? Што ён здольны зрабіць?

А вось і зрабіў. Зрабіў, калі выбраў Прэзідэнта. Каб той за яго думаў. Ды ачніцеся вы, людзі добрыя!

Можа б і ачнуліся... Але ж апанентаў думкі Прэзідэнта не чуваць па радыё. І вось пануе народная бяздумнасць, даверлівасць і санлівасць як новы шанс для прэзідэнцкай каманды. Працоўнаму люду не выпадае мысліць. Ён увесь час у барацьбе за існаванне. Ён корміць сябе і таго, хто ім кіруе. Яму трэба неяк пратрымацца фізічна. Ён есць, спіць і зноў працуе. На знос. На яго сумна глядзець. Нярэдка просты чалавек сваім жабрачым выглядам выклікае роспач. І расце, расце колькасць алкаголікаў, знясіленых, скалечаных духоўна і фізічна людзей! А ў дзверы каго з простых працаўнікоў зараз не стукаецца беднасць? Не іграе ролі і перадрэферэндная прэзідэнцкая дапамога бюджэтнікам. У моры — крапля. Людзі жартуюць: гэта — сродак для таго, каб дажыць як-небудзь да рэферэндуму, паспець падтрымаць "бацькаву канстытуцыю". А там... Адкуль возьмуцца заробкі, калі прадпрыемствы — банкруты?

І вось у гэты трывожны, балючы час беларускі радыё-тэлеэфір захлёбваецца плынню дыялогаў, прамоў па ўхваленні толькі прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі. Толькі яго! Ваяўнічая самаўпэўненасць прамоўцаў даходзіць да пажаданняў ажно ўвядзення спецартыкула аб забароне выданняў кніг патрыётаў-пісьменнікаў! Якім тут жа навешваюцца ярлыкі супрацоўніцтва з фашыстамі. Артыкула аб забароне гістарычнай сімволікі і нават аб абмежаванні... правоў каталіцкай канфесіі, веравызнання, нібыта шкодная для Беларусі.

Думаю, што гэта зрабілася з ваяўнічымі атэістамі, з тымі людзьмі, якія ўвогуле не маюць ніякіх адносін да рэлігіі? Парабіліся веруючымі?! А ў што яны сталі раптам верыць?

Людзі добрыя, як за вас маліцца?

### ПАМАЖЫ НАМ, БОГ!

*Будзь са мной надзея,*
*што з усіх дарог*
*мы аднойчы скажам:*
*"Памажы нам, Бог!*
*Адрадзі наш голас,*
*каб звінець ён мог*
*пакаяльнай просьбай —*
*"Памагай нам, Бог!"*
*Дух усюды існы,*
*міласэрны Бог,*
*узвядзі нас, Ойча,*
*на святы парог,*
*каб уголас кожны*
*памаліцца змог:*
*"Ты даруй нам, Божа,*
*памажы нам, Бог!*
*Узляці, малітва,*
*над смугой дарог,*
*дзе — адвечны голас:*
*"Памагай нам, Бог!"*
*Ты пачуй, збавіцель,*
*памажы, Ісус!*
*Ды ўваскрэсне духам*
*кожны Беларус!*

**Марыя БАРАВІК.**
м.Падсвілле.

Дзеючыя асобы

Янка ЗАПРУДНІК:

# Беларусь адбудуе моладзь



*Янка Запруднік (сапр. імя і прозвішча Сяргей Вільчыцкі, паэтычны псеўданім Ясень) — вядомы вучоны, пісьменнік, грамадска-палітычны дзеяч беларускага замежжа. На эміграцыі з 1944 года. Прымаў удзел у Першым з'ездзе беларусаў свету (1993) і ў тых прэс-канферэнцыях, якія ладзілі беларускія ўрадоўцы сумесна з інтэлектуаламі беларускага замежжа для журналістаў і на якіх ён выказаў уласныя прапановы і меркаванні наконт духоўнага, эканамічнага і дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны. Нацыянальныя інтарэсы беларускага народа Янка Запруднік абараняе паслядоўна на працягу многіх гадоў. Сёлета з нагоды ягонага 70-гадовага юбілею ў музеі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны адкрыта выстава, а ў сталічным Доме літаратара з вялікім поспехам прайшла вечарына.*

*Гутарка з Янкам Запруднікам запісана на Міжнароднай канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа", якая адбылася 5-6 кастрычніка г.г. у Менску.*

**— Спадар Запруднік, якія Вашы ўражанні ад сустрэчы з сённяшняй Беларуссю, што Вы ў нас убачылі і пачулі?**

— Я да вас прыехаў 20 верасня, браў удзел у канферэнцыі на тэму грамадзянскай супольнасці, затым паехаў з жонкай да сваякоў у Мір, у Баранавічы і ў Жыткавічы. Учора і сёння — я на канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа". Уражанні такія: перш-наперш тут холадна і ў прамым сэнсе, і ў пераносным. Але вось, як бачым, людзі і ў гэтым холадзе неяк выжываюць і змагаюцца, знаходзяць крыніцы цяпла. У пераносным сэнсе крыніца цяпла — гэта Беларусь, якая змагаецца за сваё "Я", за сваё існаванне, сваю культуру, духоўную базу, на якой трэба адбудоўваць эканоміку. Тут атрымліваецца нейкая такая перакуленая не па-марксісцку структура: у аснове — дух, а наверсе — эканоміка. І жыццё паказала, што марксісцкая формула не спрацоўвае. Трэба, відавочна, не культуру на эканоміцы базаваць, а эканоміку — на культуры. Хоць, па-праўдзе кажучы, абодва складнікі звязаны арганічна. Не можа быць багатай культуры без багатай эканомікі. Гэта ўсведамляюць усе, у тым ліку і Прэзідэнт Лукашэнка, які сказаў, што мы будзем багатыя культурна, калі будзем багатыя эканамічна. На жаль, у яго не выходзіць ні з адным, ні з другім. Ён і культуру гэтую здушвае наніз, і з эканомікай у яго нічога не выходзіць, і яна наніз ідзе. Такое ўражанне ад сённяшняй Беларусі. Але ж я сустракаўся з маладымі беларусамі, некаторыя з якіх былі ў замежжы, бачылі, як пабудавана рэшта свету, і ў гутарцы з імі набраўся аптымізму: пабачыў, што расце здаровая маладая змена, частка якой вельмі добра разумее вартасць нацыянальнай культуры, нацыянальнай ідэі.

**— А зараз да Вас пытанне як да юбіляра: што Вам удалося здзейсніць на беларускай ніве ў творчым і ў грамадскім планах?**

— Пражыўшы семдзесят гадоў і займаючыся беларускай справай ад васемнаццацігадовага ўзросту, ёсць пра што ўспомніць і што пералічыць. Мне, бадай, будзе цяжка назваць усё, што ўдалося здзейсніць, аднак паспрабую. Быў я актыўным на ніве журналістыкі — трыццаць сем гадоў адпрацаваў каментатарам на радыё "Вызваленне", якое пазней стала называцца "Свабодай". Пятнаццаць гадоў рэдагаваў газету "Беларус", працаваў і працую ў беларуска-амерыканскіх арганізацыях, з'яўляюся сябрам управы "Беларуска-амерыканскага "Задзіночання" і ўправы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, уваходжу ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Я выкладаў расійскую, савецкую гісторыю ў Нью-Йоркскім універсітэце, курс гісторыі і палітыкі Беларусі ў Калумбійскім універсітэце і ў інстытуце імя Гарымана (Гарыман быў паслом ЗША ў СССР — **І.К.**). З'яўляюся аўтарам кніжкі па гісторыі Беларусі, якая павінна выйсці ў Менску ў беларускім перакладзе з англійскай мовы, з дадатковым раздзелам пра апошнія падзеі на Бацькаўшчыне. Напісаў шэраг артыкулаў пра Беларусь для амерыканскіх энцыклапедый, цяпер апрацоўваю гістарычны слоўнік Беларусі, які выйдзе ў серыі "Гістарычныя еўрапейскія слоўнікі" і які мушу скончыць да сярэдзіны наступнага года. Гэта праца складаецца з храналогіі, уводнага артыкула на старонак трыццаць, слоўнікавай часткі і даволі дэтальнай бібліяграфіі з дваццаццю падраздзеламі. Цяпер рэдагую альбом, прысвечаны дваццаці тром гадавым мастацкім выставам, якія адбываліся ў штаце Нью-Джэрсі. Бяру ўдзел у розных канферэнцыях. Так, у лістападзе г.г. прыму ўдзел у канферэнцыі на з'ездзе амерыканскіх славістаў у Бостане. Тэма майго выступлення "Роля гістарычнай веды ў адбудове беларускай дзяржаўнасці". Вось больш-менш пра тое, што мне ўдалося здзейсніць.

**— А паэзія Сяргея Ясеня?**

— Паэзія — занятак маёй маладосці, хоць і цяпер часамі нейкія такія накіды напрошваюцца. Сёння пры маёй занятасці іншымі справамі я пакідаю паэзію маладым паэтам Беларусі, сярод якіх ёсць выдатныя. Я вельмі зацікаўлены ў іхняй дзейнасці, у іхняй працы і думаю пра іх са спадзяваннем.

**— Раскажыце пра ўдзел амерыканскіх беларусаў у палітычным і грамадскім жыцці.**

— Мы, беларусы Амерыкі, падтрымліваем кантакты з амерыканскімі ўрадавымі і палітычнымі коламі, бяром удзел у перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі, трымаем лучнасць з Дзяржаўным дэпартаментам Злучаных Штатаў Амерыкі, з кангрэсменамі і сенатарамі тых штатаў, дзе жывуць беларусы,— а жывуць яны ў асноўным у штатах Нью-Джэрсі, Нью-Йорк, Агаё, Каліфорнія і інш., інфармуем улады пра развіццё падзеяў на Беларусі, даём сваё разуменне гэтых падзеяў, спрыяючы станаўленню беларускай дзяржаўнасці і беларускай культуры, дэмакратызацыі грамадства і адраджэнню эканомікі і т.п.

**— Значыць, у эканамічным плане Вы таксама нейкім чынам уплываеце на справы Беларусі? Памятаецца, у Вас былі адпаведныя праекты, з якімі Вы прыязджалі на Першы з'езд беларусаў свету.**

— Перш-наперш мы стараемся, каб у Беларусь ішла дапамога ахвярам чарнобыльскай катастрофы, асабліва дзецям, і пашыраем звесткі пра яе вынікі. У Дзяржаўным дэпартаменце ЗША дамагаемся, каб Беларусь не была абыдзена ў размеркаванні дапамогі, што ідзе ў краіны былога СССР. Эканамічны аспект нашай дзейнасці ў дадзенай сітуацыі звужаны, паколькі амерыканскія бізнесмены інвестуюць свае капіталы ў краіны з дэмакратычным ладам, дзе іхнія ўкладанні гарантаваны не амонаўцамі, не войскам, а законамі. Гэта адна з дэталяў, якой, на жаль, не разумее Прэзідэнт Лукашэнка, які запэўніваў амерыканскіх бізнесменаў тут, у Менску, што іхнія ўклады будуць гарантаваны войскам. Але яны не такія наіўныя людзі, каб не разумець, што найлепшая гарантыя іхніх укладаў — гэта адпаведнае заканадаўства, якога, на жаль, на Беларусі яшчэ няма, ну, і, пэўна ж, няма яшчэ волі вашага ўрада праводзіць рыначныя рэформы.

**— А як складваюцца Вашы кантакты з нацыянальнымі цэнтрамі на Беларусі?**

— У асноўным мы кантактуем з усімі такімі установамі. Напрыклад, мой сябра, старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель, заступнікам якога я з'яўляюся, вельмі актыўна рассылае нашы выданні па беларускіх бібліятэках і універсітэтах: у Гомель, Гародню, Полацк, Віцебск, Менск і іншыя гарады. Мы кантактуем са Скарынавым цэнтрам і Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", з нацыянальнай бібліятэкай, якой хачу цяпер передаць дзве свае кніжкі. Адна з іх — пра гісторыю, палітыку і эканоміку Беларусі выйшла пад назвай "Беларусь на гістарычным скрыжаванні" (1993), другая — "Беларусь і Малдова" (1995) — выйшла ў выдавецтве кангрэсавай бібліятэкі ЗША і адрасуецца дыпламатам Дзяржаўнага дэпартамента дзеля азнаямлення з гэтымі краінамі. Мы трымаем таксама кантакты з беларускімі скаўтамі, з Беларускім Народным Фронтам "Адраджэньне", з усімі дэмакратычнымі арганізацыямі: сацыял-дэмакратамі, хрысціянскімі дэмакратамі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой, з газетамі "Свабода", "Літаратура і мастацтва" і "Наша слова". Пра вашу газету магу сказаць, што яна публікуе вельмі патрэбныя матэрыялы, і я ведаю, што ў Амерыцы беларусы з вялікай ахвотай яе чытаюць, сочаць па ёй за ходам падзей, за станам беларускай мовы. Ну, і затым мы трымаем кантакты з некаторымі шпіталямі, куды пасылаем лекі. Вось, прыкладам, мы з жонкай зараз цікавіліся, ці дайшла да Жыткавіцкага шпіталя тая дапамога, якую мы яму ахвяравалі.

**— Цікава, а яна дайшла?**

— На жаль, многае не дайшло. Цяжка сказаць, што ў вас робіцца, чаму дапамога не даходзіць туды, куды пасылаецца.

**— Скажыце колькі слоў пра тое, што плануеце здзейсніць.**

— Перш-наперш мушу скончыць апрацоўку гістарычнага слоўніка Беларусі, а таксама рэдагаванне альбома, прысвечанага мастацкім выставам. У мяне моцнае жаданне напісаць гісторыю "Дванаццаткі" — пра незабыўны перыяд у маім жыцці.

**— А што такое гісторыя "Дванаццаткі"?**

— Гэта гісторыя пра дванаццаць юнакоў-бязбацькавічаў, якія, скончыўшы беларускую гімназію імя Я.Купалы ў Рэгенсбургу і Міхельсдорфе, у студзені 1948 года выехалі працаваць шахцёрамі ў Англію, дзе трымаліся разам і дагаварыліся нават з чужынкамі не жаніцца. Там мы выдавалі часопіс "Наперад", дзякуючы якому пра нас даведаліся беларускія студэнты Лювэнскага універсітэта з Бельгіі, пасля чаго мы знайшлі магчымасць далучыцца да іх.

**— Вы скончылі Лювэнскі універсітэт?**

— Я скончыў гістарычны факультэт гэтага універсітэта ў 1954 годзе.

**— А бельгійскі фармацэўт спадар Клыбік таксама быў у ліку дванаццаці вашых сяброў?**

— Не, не быў. Я з ім пазнаёміўся ўжо ў Бельгіі, калі жылі разам у адным студэнцкім доме. Там мы вучыліся і закончылі сваю навуку. Хачу яшчэ сказаць, што з намі быў кампазітар Мікола Равенскі. З трыццаці з нечым беларускіх хлопцаў і дзяўчат, што вучыліся ў Лювэнскім універсітэце, ён адабраў шаснаццаць асоб і ўтварыў беларускі хор. На пачатку пяцідзесятых гадоў мы выязджалі з гастролямі ў Бон, у Парыж, у Лондан — аж да смерці Равенскага ў 1953 годзе. Хачу дадаць да сказанага: чым больш трымаю лучнасць з Беларуссю, тым больш мяне цікавіць рэалізацыя тэмы "Беларуская нацыянальная ідэя і беларускі нацыяналізм", якую спадзяюся распрацаваць у аспекце ўзаемасувязі гэтых паняццяў: што гэта за канцэпцыя і якую ролю яна павінна адыгрываць у далейшым развіцці беларускай дзяржаўнасці.

**— Мне вядома, што ў вайну Вы вучыліся ў Баранавіцкай беларускай прагімназіі. І я ў ёй вучылася — ці не ў адзін час з Вамі?**

— Значыць, мы вучыліся ў адной школе. Прагімназію я закончыў у 1943 годзе, затым скончыў трэці курс гандлёвай школы, а тады, у канцы чэрвеня 1944 года, адбылася эвакуацыя. Паколькі я парушыў забарону партызан не вучыцца ў час акупацыі, і быў членам Саюза беларускай моладзі, то палічыў больш разумным выехаць на Захад.

**— Ці сустракаліся Вы ў Штатах з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком?**

— Вядома ж, мы сустракаемся. Дапамагаем яму і ў ролі перакладчыкаў, і ў ролі праваднікоў, бо англійскай мовы ён не ведае. Настрой у яго цяпер не просты, не лёгкі, але адначасна і аптымістычны. Пазьняк — вельмі загартаваны змагар, чалавек з моцным духам, і я думаю, што ён дасць рады ў новай сітуацыі.

**— А як склалася яго матэрыяльнае становішча? Ці не давядзецца яму працаваць у шахтах, як калісь Вам?**

— Яго матэрыяльнае становішча сапраўды цяжкае. У вас няправільна разумеюць, што амерыканская дзяржава разам са статусам палітычнага ўцекача яму дае нейкую дапамогу. Абсалютна ніякай дзяржаўнай дапамогі Пазьняк не атрымлівае. Яму давядзецца выжываць уласнымі сіламі.

**— Што скажаце на развітанне?**

— Перш-наперш хачу падзякаваць вам за інтэрв'ю. Я рады, што мы знайшлі дзеля гэтага вольную часінку. Беларусам Амерыкі вядома, што вашай рэдакцыі даводзіцца працаваць у незвычайна цяжкіх, экстрэмальна-цяжкіх абставінах. Мы гэта разумеем і са свайго боку стараемся, наколькі гэта магчыма, спрыяць вам і пачувацца разам з вамі. "Наша слова" — вельмі патрэбнае выданне, таму што мова — адна з асноў нашага існавання. Можа, не адзіная. Некаторыя, як мне здаецца, звужаюць базу нашай бытнасці, атаесамляючы яе толькі з мовай. Не! Я думаю, гэта база шырэйшая. Сам факт існавання дзяржаўнасці, якая б яна ні была, уплывае на светагляд маладых людзей. Я ў гэтым пераканаўся, сустракаючыся тут з маладымі расійскамоўнымі беларускімі незалежнікамі. Безумоўная рэч, мову трэба бараніць, развіваць, адстойваць,— тое, што вы робіце сёння. І мы ў гэтай справе будзем вас падтрымліваць маральна. Аднак трэба сваю базу крышачку шырэй браць, бо калі мы звужаем разуменне базы свайго існавання, мы асуджаем сябе на песімізм. А нам патрэбен аптымізм, нам патрэбна моц духу і нам трэба разумець сваю сітуацыю, можа, крышачку больш трывалую, чымся толькі самое існаванне мовы.

**— І я Вам шчыра дзякую за гэту сустрэчу. А ад супрацоўнікаў нашага штотыднёвіка прыміце сардэчныя віншаванні з юбілеем і пажаданні асабістага шчасця і плёну ў працы.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**



Зацікаўленая размова: **Радзім Гарэцкі, Янка Запруднік, Ніл Гілевіч.**

**Фота У.КАРМІЛКІНА.**

# Супрацьстаянне не перарасло ў крывавы канфлікт

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

нікаў не выпускалі з класаў, а ў ВНУ ішлі рэктарскія праверкі, тым не менш моладзі ў калонах было нямала.

Аб 11 гадзіне калоны па ходніках рушылі па праспекце Скарыны. Парадак пад час шэсця забяспечвала дружына. Ніякіх эксцэсаў не адбылося. Як мне здаецца, на паводзіны ўладаў паўплывала некалькі акалічнасцяў. Хутчэй за ўсё Лукашэнка не атрымаў дабро на любыя дзеянні ў Маскве, плюс дэмарш паслоў чатырох буйнейшых еўрапейскіх краінаў і безумоўна публікацыя вышэйназванага таемнага плана. На плошчы ля Опернага тэатра прысутнічала ўжо звыш 25 тысяч чалавек. Мітынг прайшоў досыць мірна, што гаворыць пра жаданне лідэраў апазіцыі любой цаной не дапусціць сутыкненняў дэманстрантаў з міліцыяй. Пасля мітынгу некалькі тысяч чалавек прыйшлі да павароту на праспект Машэрава і на працягу гадзіны дэманстравалі свае адносіны да ўдзельнікаў усебеларускага сходу. Усе подступы да Палаца спорту былі ачэпленыя войскамі, але ніхто яго штурмаваць не збіраўся, міліцыя спачатку паспрабавала адцясніць людзей у метро, аднак потым кінула гэты занятак. А 17-й гадзіне каля універсама "Рыга" сіламі АМАПа былі арыштаваныя сем маладых хлопцаў і дзяўчат, прадстаўнікоў федэрацыі анархістаў. Сярод затрыманых былі грамадзяне Расіі і Францыі. У панядзелак тры чалавекі былі асуджаныя на 5 сутак арышту і яшчэ трое атрымалі вялікія штрафы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Ці будзе ў нашай школе месца беларускай культуры і беларускай мове?

Сёння, калі ў рэспубліцы разгортваюцца працэсы вызначэння асноўных мэтаў і зместу маючай адбыцца рэформы агульнаадукацыйнай школы, у якасці аднаго з найгалоўнейшых паўстае пытанне аб месцы беларускай нацыянальнай культуры, увогуле, і беларускай мовы, у прыватнасці, у будучай паслярэформеннай агульнаадукацыйнай школе.

Яшчэ некалькі гадоў таму гэтае пытанне ў такой пастаноўцы здавалася штучным. У рэспубліцы дзейнічалі законы "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", якія дакладна вызначалі як месца беларускай культуры, так і месца беларускай мовы ў нашай адукацыйнай сістэме. Нагадаем толькі адзін з артыкулаў гэтых законаў, у адпаведнасці з якім школы ў Рэспубліцы Беларусь павінны былі працаваць на беларускай мове. У месцах кампактнага пражывання жыхароў іншай нацыянальнасці маглі ствараецца школы ці класы з расійскай ці іншай нацыянальнай мовай навучання. Зыходзячы з гэтых нарматыўных палажэнняў, Міністэрства адукацыі распрацавала як свае падыходы да месца беларускай нацыянальнай культуры і беларускай мовы ў нашай адукацыйнай сістэме, так і нарматыўную базу і змест сваёй дзейнасці.

Пазначым некаторыя з дасягненняў таго часу. Па-першае, у рэспубліцы былі распрацаваны навучальныя планы для школ з беларускай мовай навучання, для школ з расійскай мовай навучання і для школ з іншай (польскай, яўрэйскай, украінскай і г.д.) мовай навучання. Але ва ўсіх гэтых варыянтах адпаведна закону вывучэнне беларускай і расійскай моваў было абавязковым. Прычым яно прадугледжвалася ў аб'ёмах, дастатковых для таго, каб кожны выпускнік кожнай школы валодаў абедзвюма мовамі на ўзроўні, які дазваляў бы яму і працаваць, і выконваць свае грамадзянскія абавязкі, і рэалізаваць свае грамадзянскія правы на кожнай з іх у адпаведнасці з Законам аб мовах.

Па-другое, навуковымі калектывамі пад кіраўніцтвам В.Протчанкі і П.Шубы былі распрацаваныя прынцыпова новыя падыходы да вывучэння абедзвюх моваў — беларускай і расійскай. Гэтыя канцэпцыі характарызаваліся з аднаго боку, апораю пры вывучэнні другой мовы на асноўную — на мову навучання, а з другога боку, так званым камунікатыўна-дзейсным падыходам, пры якім галоўным было вывучэнне мовы як сродку ажыццяўлення камунікатыўных і прафесійных функцый чалавека.

Па-трэцяе, у гэтыя гады абмяркоўвалася рашэнне (здавалася б, відавочна слушнае, але дагэтуль так і не прынятае) аб вывучэнні прадметаў нацыянальна-культурнай спецыфікі (гісторыі Беларусі, геаграфіі Беларусі і г.д) толькі на беларускай мове, незалежна ад мовы навучання ў той ці іншай школе.

Па-чацвёртае, прынцыповай перапрацоўцы падлеглі праграмы вывучэння беларускай літаратуры. Не спыняючыся на ўсіх асаблівасцях новых праграм, падкрэслю толькі тое, што ў школах з беларускай мовай навучання творы сусветнай літаратуры, якія былі ўключаныя ў змест літаратурнай адукацыі, павінны былі вывучацца ў курсе беларускай літаратуры, гэта значыць, на беларускай мове.

Калі дадаць сюды значнае павелічэнне ролі прадметаў нацыянальна-культурнай спецыфікі і пашырэнне іх наменклатуры, увядзенне абавязковых экзаменаў беларускай мовы ды гісторыі Беларусі ў дзевятым і беларускай літаратуры ў адзінаццатым класах, дык становіцца відавочным, што гэта была праграма стварэння ў поўным сэнсе гэтага слова нацыянальнай сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь. Статус беларускай мовы ў школах стаў адным з вышэйшых.

Мэтанакіраваная дзейнасць міністэрства, органаў кіравання адукацыяй на месцах, адміністрацыі школ, дзяржаўная падтрымка гэтых працэсаў на ўзроўні заканадаўчай і выканаўчай уладаў вялі да таго, што бацькі ўсвядомілі сэнс гэтых працэсаў. Без асаблівых ваганняў яны аддавалі сваіх дзетак у беларускамоўныя класы. Нагадаем, што на пачатак 1994/95 навучальнага года колькасць вучняў у першых беларускамоўных класах дасягнула 76%, што прыблізна адпавядала нацыянальнаму складу насельніцтва краіны. І, што цікава, колькасць скаргаў у міністэрства на парушэнне правоў бацькоў на навучанне сваіх дзетак на расійскай мове лічылася адзінкамі і ішлі гэтыя скаргі галоўным чынам з месцаў, у якіх была значная колькасць вайсковых расійскай арміі. Гэтыя праблемы вырашаліся з улікам пажаданняў бацькоў і патрабаванняў законаў. Таму гаварыць сёння аб гвалтоўнай беларусізацыі ў 1991-94 гадах азначае альбо не ведаць, альбо наўмысна скажаць сутнасць працэсаў таго часу.

Сітуацыя значна змянілася пасля травеньскага 1995 г. рэферэндуму. Не будзем цяпер абмяркоўваць яго, гэтага рэферэндуму, мэтазгоднасць — аб гэтым сказана столькі, што дадаць нешта новае ўжо немагчыма. Але, на мой погляд, рэч не толькі, а, мабыць, і не столькі, ў выніках рэферэндуму. Праблема з'яўляецца значна больш складанай. Яна — у падыходах да месца беларускай мовы ў грамадскім жыцці і, як вынік, у адукацыйнай сістэме.

Калі б і заканадаўчая, і выканаўчая ўлады па-сапраўднаму клапаціліся пра беларускую мову, дык яны як мага хутчэй далі б праўвую інтэрпрэтацыю паняцця роўнага статуса беларускай і расійскай моваў, бо ў гэты тэрмін — роўны статус — можна ўкласці розны сэнс і ў адпаведнасці з гэтым па-рознаму вызначаць месца абедзвюх моваў у адукацыйнай сістэме. А сёння гэтая неафіцыйная, але дзеючая інтэрпрэтацыя скіравана, па сутнасці, супраць беларускай мовы.

Патлумачу гэтую думку такім прыкладам. На спаборніцтвах па барацьбе ці боксе ніхто не патрабуе, каб спартсмен вагою 50 кг. уступіў у двубой са спартсменам вагою 100 кг, бо вынік магчымай барацьбы відавочны. Усе ўдзельнікі падзяляюцца на пэўныя вагавыя катэгорыі і пераможца ў кожнай з іх мае **роўны статус** з усімі астатнімі. І ніхто не бачыць тут няроўнасці, хаця, падкрэслю гэта яшчэ раз, пераможца ў найлягчэйшай вазе не ў стане спаборнічаць з пераможцам у найцяжэйшай вазе.

Калі правесці паралель з мовамі, дык трэба прызнаць, што беларуская мова не са сваёй віны і не згодна з вызначаным жаданнем народа на пачатку 90-ых гадоў прыйшла ў стан заняпаду ў параўнанні з расійскай мовай. І таму роўны статус моваў мусіў бы азначаць **фактычную значную няроўнасць на карысць беларускай мове** ў справе дзяржаўнай падтрымкі моваў. Гэты падыход мусіў быць зафіксаваным заканадаўствам, перакладзены ў нарматыўныя дакументы і ўведзены ў практыку дзеяння ўсіх органаў дзяржаўнай улады. Ці маем мы гэта сёння? Пытанне, як кажуць, для недасведчаных.

Міністэрства адукацыі і навукі з вядомых кан'юнктурных прычын палічыла за лепшае ніяк нарматыўна не вызначаць сваёй пазіцыі, спадзеючыся, што неяк яно будзе. І неяк яно ёсць. Паводле звестках таго ж міністэрства 1995/96 навучальны год пачаўся з колькасцю вучняў у першых беларускамоўных класах на ўзроўні 36%, 1996/97 — на ўзроўні 39%. Гэта — палова ці менш ад узроўню 1994 г. Пачаўся працэс разбурэння беларускамоўных 2-5 класаў. Непатрэбнымі аказаліся падручнікі, зноў панізіўся аўтарытэт беларускай мовы і настаўніка гэтай дысцыпліны. Паднялася хваля публікацый аб гвалтоўнай беларусізацыі. Што, народ раптоўна сам прыняў рашэнне аб беспрэспектыўнасці беларускамоўнага навучання? А можа, праблема не ў жаданнях народа, а ў нечым іншым?

Нядаўна ў друку з'явілася распрацаваная Міністэрствам адукацыі і навукі і зацверджаная Кабінетам міністраў Канцэпцыя рэфармавання агульнаадукацыйнай школы. Але дарэмна будзе шукаць у ёй адказу на пытанне аб месцы беларускай нацыянальнай культуры, беларускай мовы ў будучай школе. Гэтае пытанне нават не згаданае ў Канцэпцыі, яго нібыта не існуе зусім. Што гэта — выпадковая недарэчнасць ці асэнсаваная пазіцыя? Хацелася б верыць у першае, але падзеі апошніх часоў не даюць да таго падставаў.

Адзін толькі прыклад. У канцы 1995 г. Міністэрства адукацыі і навукі раптоўна мяняе схему выпускных экзаменаў за курс сярэдняй школы, уводзячы ў школах з усімі мовамі навучання ў спіс абавязковых экзаменаў на расійскай мове. І толькі пад уціскам грамадскасці яно змяніла сваё рашэнне, дазволіўшы вучням выбіраць паміж расійскай і беларускай мовамі.

Здавалася б, пасля гэтага міністэрства стане больш уважліва ставіцца да пытання моваў. Але гэтак не адбылося.

У Канцэпцыі рэфармавання не пазначаная і праблема фармавання нацыянальнай самасвядомасці вучняў. Няма яе ні ў мэтах, ні ў змесце канцэпцыі рэфармавання.

Хацелася б, каб аўтары рэформы агульнаадукацыйнай школы зразумелі, што не існуе інтэрнацыянальных сістэм адукацыі. Кожная сістэма будуецца на дакладна вызначанай нацыянальнай культуры і толькі праз яе рухаецца да культуры сусветнай. На якой нацыянальнай культуры будзе будавацца сістэма адукацыі Рэспублікі Беларусь? На беларускай з дапаўненнем яе дасягненнямі культур іншых народаў нашай краіны і праз гэта да сусветнай культуры ці на іншай, напрыклад, на расійскай ці на польскай культуры з элементамі беларускай? Адказваць на гэтае пытанне ўсё адно давядзецца.

Але і прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і навукі, і прадстаўнікі заканадаўчай і выканаўчай уладаў павінны зразумець: калі яны сёння па-сапраўднаму не падтрымаюць беларускую мову і беларускую культуру, дык можа здарыцца так, што праз 5-6 год і падтрымліваць ужо не будзе чаго. А гэтага гісторыя нам не даруе. У гісторыю можна ўвайсці, а можна і ўлезці. Думаць трэба сёння, каб не было сорамна і брыдка заўтра.

**Г.ПЯТРОЎСКІ, прэзідэнт Таварыства беларускай школы.**

### З рэдакцыйнай пошты

# Беларуская мова — не перашкода

Паважаная рэдакцыя, хачу з прыемнасцю адзначыць. што нам, групе навучэнцаў Менскага педагагічнага каледжа — будучым настаўнікам пачатковых класаў, выпала шчасце праходзіць педагагічную практыку ў СШ 86 г. Менска, дзе беларуская мова — у вялікай пашане. Узначальвае школу выкладчык беларускай мовы і літаратуры Шэндзераў Мікалай Уладзіміравіч, а намеснікай яго па рабоце з навучэнцамі пачатковых класаў з'яўляецца Ніна Васільеўна Цырліна,— выдатныя педагогі і шчырыя прапагандысты нацыянальнай культуры.

Прыгадваецца 2 верасня — пачатак новага навучальнага года. Вяла свята (гэта сапраўды было свята!) намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Калеснікава Валянціна Міхайлаўна. Усё тут радавала слых: і ёмістае беларускае слова, і мелодыі ў выкананні духавога аркестра, і звонкія дзіцячыя галасы. Быццам само сонейка асвятляла дарогу дзецям у вялікую Краіну Ведаў.

Пачаліся заняткі. Школа мае 13 беларускамоўных пачатковых класаў. І ўсё натуральна, прыстойна, нікто ніякага дыскамфорту не адчувае: дзеці, іх бацькі, настаўнікі добра разумеюць адзін аднаго.

Міжволі задумваешся: чаму ў іншых школах беларускамоўныя класы параскідалі? Хутчэй за ўсё гэта залежыць ад агульнага кіраўніцтва школы, ад педагагічнага калектыва ў цэлым. Выхаваныя бацькі школе давяраюць, а з тымі, хто карыстаецца "трасянкай", усё-такі трэба шмат працаваць. І тут, у 86-й школе, педагогі працуюць.

У пачатку верасня мы былі на практыцы, якая праходзіла пад дэвізам "Першыя дні дзіцяці ў школе". І прыемна адзначыць, што мы трапілі ў 1 "В"клас да маладой, але здольнай настаўніцы, выпускніцы нашага Менскага педагагічнага каледжа Астроўскай Таццяны Фамінічны.

Настаўніца выдатна валодае беларускай мовай, працэс навучання і выхавання яна вядзе так, што дзецям было ўсё зразумела, і яны з кожным днём — як гэта відаць у першым класе! — станавіліся ўсё больш арганізаванымі, засвойвалі патрэбны матэрыял, а беларуская мова не тое, што перашкаджала, а наадварот, спрыяла іх навучанню.

Уявіце сабе такі момант. У класе ціха. На партах ляжаць буквары. Настаўніца расказвае дзецям, як абыходзіцца з іх галоўнай кнігай, гартае і гаворыць:

*Беражліва, беражліва я бяру старонку,*
*Беражліва, беражліва перагортваю яе.*

Услед за ёю гэтыя словы паўтараюць усе першакласнікі. Таццяна Фамінічна вельмі цікава расказвала дзецям, якая мова і чаму называецца вуснай, якая пісьмовай.

А вось яшчэ фрагмент з урока. Ля дошкі настаўніца паставіла ў рад 12 выразаных цацак (ялінак, яблык, жолуд і інш.). Палічылі з дзецьмі, звяртаючы ўвагу на вымаўленне лікаў. Пытаецца:

— Я выставіла фігуркі. Колькі мы іх налічылі?

Дзеці нястройным хорам адказалі:

— Мы налічылі 12 фігурак.

Потым настаўніца яшчэ раз з дзецьмі палічыла цацкі, паказваючы на адну з фігурак два разы, каб атрымалася 13. Наступным разам яна прапусціла адну фігурку — і атрымалася 11. Такім чынам Таццяна Фамінічна пазнаёміла дзяцей з асноўнымі правіламі лічэння, якія былі сфармуляваныя так: ніякі прадмет нельга лічыць двойчы, ніякі прадмет нельга прапускаць, лічыць можна з любога прадмета і адказ атрымаецца правільны.

Цікава адзначыць тое, што ўсе дзеці паўтаралі правілы дакладна і даказвалі правільнасць адказу на цацках. Урок прайшоў вельмі цікава. І не заўважылі, як прабег час.

Аб рабоце настаўніцы ў першыя дні дзіцяці ў школе можна было б расказваць шмат. І кожны фрагмент урока па-свойму цікавы, займальны, ці гэта напружаная праца, ці хвілінка адпачынку:

*Раз, два, тры, чатыры,*
*Зайчык вушы натапырыў,*
*Ідзе з лесу воўк, воўк,*
*І зубамі шчоўк, шчоўк...*

Вельмі хочацца перадаць бацькам, якія баяцца аддаваць сваіх дзетак у класы з беларускай мовай навучання, што мова ў навучанні — не перашкода. У школе ўсё залежыць ад таго, хто вучыць і як вучыць.

**Вікторыя ШЫМАНСКАЯ, навучэнка Менскага педагагічнага каледжа.**

# Псіхалагічнае спаемства

Да ўвагі тых, хто адчувае патрэбу ў беларускамоўнай дапамозе: стварaецца беларускамоўнае псіхалагічнае спаемства.

**З якое нагоды стварaецца спаемства?**

Шмат беларусаў, якія жадаюць размаўляць на роднай мове, не маюць галоўнага для гэтага: беларускамоўнага асяроддзя.

Адсутнасць умоваў дзеля ажыццяўлення нармальнага жадання, нармальнай патрэбы адмоўна адбіваецца на настроі, працаздольнасці, самаадчуванні.

Кожны чалавек мае права на самарэалізацыю. Мы дапамагаем знішчыць духоўную адзіноту, набыць плённасць у стасунках.

**Як гэта робіцца?**

Па спецыяльнай псіхалагічнай методыцы стварaецца беларускамоўнае асяроддзе, дзе кожны мае магчымасць выказаць свае думкі па хвалюючых яго пытаннях, распавесці пра свае сумненні альбо дасягненні, пераадолець бар'ер нерашучасці ва ўжыванні мовы, пашырыць свой слоўнікавы запас, знайсці аднадумцаў.

Аднačасова ўдзельнікі будуць праходзіць практычныя заняткі па псіхалагічным удасканаленні асобы, развіцці здольнасцяў, падвышэнні творчых магчымасцяў.

**Хто залічваецца ў моўна-псіхалагічнае спаемства?**

Тыя, хто адчувае псіхалагічны дыскамфорт з прычыны адсутнасці беларускамоўнага асяроддзя;

Тыя, хто імкнецца пераадолець бар'ер нерашучасці ва ўжыванні мовы.

**Што рабіць, каб залічыцца ў спаемства?**

Патэлефанаваць у сераду з 18 да 20 гадзіны па тэл. 265-74-12, каб запісаца на суразмову. Суразмова дае магчымасць вызначыць від дапамогі.

Неабавязкова пры запісе і на суразмове даваць свае пашпартныя звесткі, дапамога аказваецца бясплатна.

**Кабінет сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі, паліклініка № 28 г.Менска.**

# Дзяржаўная ці афіцыйная?

У праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, вынесеным на рэферэндум, які ініцыяваў Прэзідэнт, у артыкуле 17 запісана: "Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Руская мова мае роўны статус з беларускай". Што азначае роўны статус — там не сказана. Ці тут падкрэсліваецца большая важнасць беларускай мовы?

Прыгадваецца, што яшчэ ў Вярхоўнай Радзе XII склікання гучала прапанова беларускую мову пакінуць дзяржаўнай, расійскую — абвясціць афіцыйнай. Натуральна, адразу паўстала пытанне: чым розніцца дзяржаўная мова ад афіцыйнай? Высвятляецца, што дзяржаўная мова — тая, на якой, прыкладам, выходзяць дзяржаўныя пастановы. Афіцыйная — тая, якая ўжываецца ў грамадстве афіцыйна.

Зараз у праекце Канстытуцыі, прапанаваным дэпутацкімі фракцыямі аграрыяў і камуністаў, у артыкуле 17 чытаем: "Беларуская і руская мовы з'яўляюцца афіцыйнымі мовамі Рэспублікі Беларусь". Пра дзяржаўную — гаворкі няма. Можна прапанаваць такі варыянт: дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская; афіцыйныя мовы ў Беларусі — беларуская і расійская. Што я маю на ўвазе? Тут я бачу дзяржаўную мову як мову беларускага парламента, урадавых устаноў — ад мясцовага самакіравання да вышэйшых органаў улады, сродкаў масавай інфармацыі, сувязі і да т.п.

Важна падкрэсліць, што дзяржаўная мова — мова навучання. Але, калі ў Беларусі могуць існаваць польскія школы, дык чаму б не пакінуць невялікі працэнт расійскіх школаў і класаў, калі нейкія бацькі "ўпёрліся рогам", каб іх дзяцей вучылі па-расійску. У нас такіх, хутчэй за ўсё, знойдзецца няшмат. Іх праблема, як такія дзеці потым мецьмуць моўную сувязь з тымі, хто вучыўся ў беларускай школе. Сапраўды, расійскамоўнаму інжынеру пры такім варыянце давядзецца працаваць з беларускамоўнай дакументацыяй. Ён скажа: я не ўсё разумею, бо не вучыўся па-беларуску. Беларускамоўны таксама мае права не ўжываць расійскай мовы. Дзе выйсце? Значыць, беларускую мову, як і расійскую, мусіць ведаць кожны.

Афіцыйныя мовы — тыя, якімі чалавек мае права свабодна карыстацца ў грамадстве. Увогуле, у прыватнай гаманe, калі чалавека разумеюць,— ён можа гаварыць і на іншай мове. Спадзяванне на афіцыйнае ўжыванне грамадзянамі толькі адной беларускай мовы нерэальнае. Такое магчыма толькі ў перспектыве. Таму можна нават меркаваць, што дзве афіцыйныя мовы патрэбныя на пераходны перыяд. Гадоў на 15-20. Калі беларусы здолелі (хай пад прымусам) асвоіць мову Усходняй Русі, дык чаму цяпер, ва ўмовах дзяржаўнасці Беларусі, яны, як і ўсе грамадзяне нашай краіны, не могуць загаварыць па-беларуску?

Важнай умовай аб'яднання нацыі, ліквідацыі расколу ёсць пераход ад разнамоўя да беларускага аднамоўя. Нельга забываць, што іншыя мовы беларускаму народу ў гісторыі прышчэпліваліся часцей гвалтам. Беларуская мова ў нас адна. І ці захацелі б гадоў праз 100 вызваныя дзяржавай у патрыятычным духу беларусы вучыцца на чужой мове? Іншая справа — вывучаць замежныя мовы добраахвотна, у тым ліку і мову народа Усходняй краіны.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

*Меркаванні*

# Родная мова ў праектах новай Канстытуцыі

Успомнім, як доўга і ўпарта спрачаліся дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання над рэдакцыяй 17-га артыкула дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Нарэшце быў прыняты разумны варыянт: беларуская мова абвяшчалася дзяржаўнай, а расійская — сродкам міжнацыянальных зносін з гарантыяй яе вывучэння ў школах. Гэтага патрабавалі як маштабы русіфікацыі на Беларусі, схільнасць да яе пэўнай часткі насельніцтва і пражываючых у нас расіянаў, так званыя "нацыянальныя інтарэсы" тых, хто цяпер пры ўладзе. Беларуская мова як дзяржаўная атрымала перспектыву паступова і праз пэўны час вярнуцца ў грамадства і заняць у ім належнае становішча. Бо яна, дагэтуль найбольш трывала захоўваючыся ў асяроддзі пажылых людзей і абмежаванай групы патрыятычнай інтэлігенцыі (настаўнікаў, бібліятэкараў, працаўнікоў музеяў і архіваў, сумленных чыноўнікаў усіх узроўняў, журналістаў — ад ведамасных і раённых, абласных да дзяржаўных газет, радыё і тэлебачання) — тады шырока і паўсюдна ўваходзіла ў сістэму школьнага навучання і дзяржаўных установаў.

У прэзідэнцкім праекце Канстытуцыі РБ у гэтым жа артыкуле беларуская мова захавала сваю дзяржаўнасць, але такі статус атрымала і расійская. Гэта новы ўдар па нашай мове. Першы быў нанесены на рэферэндуме 1995 года, ад якога пачала разбурацца нацыянальная сістэма адукацыі. А.Лукашэнка ў Гародні гаварыў у тым сэнсе, маўляў, што дрэннага, што бацькам далі права выбіраць мову навучання сваіх дзяцей? Дрэнна тое, што зрусіфікаваныя не па сваёй ахвоце, а гістарычнымі ўмовамі беларусы цяпер самі ўзмацняюць гэты працэс. Дадзенае права прывяло толькі да таго, што многія бацькі з кан'юнктурных меркаванняў пачалі патрабаваць пераводу беларускамоўных класаў на расійскую мову выкладання, што абмяжоўвае або спыняе адраджэнне роднай мовы і духоўнасці. Што "вялікі і магутны" заціскае і прыгнятае меншую і больш слабейшую — даведзеную да такога стану неспрыяльнымі абставінамі мінулага — беларускую мову. Дазваляе ўсёй нашай кіруючай уладзе — зверху данізу — карыстацца ў РБ не моваю свайго народа і сваёй дзяржавы, а суседняй, што не спрыяе пашырэнню роднага слова, а падтрымлівае русіфікацыю Беларусі. У выніку губляецца не толькі нацыянальны твар дзяржавы, але робіцца праблематычнай выжыванне роднай мовы.

Доктар філалагічных навук Л.Выгонная ў часопісе "Роднае слова" (№ 2, 1996 г.) піша, што працэс выміранне моў адбываецца і ў XX стагоддзі. Гэта тлумачыцца "пашырэннем дамінантных моў (англійскай, расійскай) сродкамі масавай інфармацыі. Неспрыяльныя ўмовы для існавання роднай мовы назіраюцца ў буйных беларускіх гарадах. Гэтаму спрыяе выкарыстанне няроднай мовы ў інтэрнатах, каледжах і іншых навучальных установах залежных краін. Гэта назіраецца ў нас цяпер. Таму з новай рэдакцыяй 17-га артыкула пагадзіцца немагчыма.

Не задавальняе мяне фармуліроўка гэтага артыкула і ў праекце Канстытуцыі, які выносяць камуністы і аграрнікі на абмеркаванне. Народу прапануецца на рэферэндуме сваімі рукамі выкапаць яму сваёй роднай мове. У дзеючай Канстытуцыі РБ 17-ы артыкул найбольш дакладна выяўляе інтарэсы народа Рэспублікі Беларусь.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**выдатнік народнай асветы.**
г.Ашмяны.

*Згадкі*

# Чаму ў нас слабая нацыянальная самасвядомасць?

Сучасны нацыянальны нігілізм, стан самасвядомасці беларускага народа, калі значная частка насельніцтва (асабліва жыхары гарадоў) саромеюцца размаўляць на матчынай мове, ставіць пытанне: чаму склалася такая сітуацыя? У гэтым плане варта яшчэ раз уважліва прыгледзецца да гісторыі школьнага навучання ў нашай краіне.

У канцы XVIII ст. феадальна-шляхецкая Рэч Паспалітая, як вядома, была падзеленая паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Беларусь была ўключаная ў склад апошняй.

Ліквідацыя Рэчы Паспалітай выклікала моцнае ўзрушэнне ў патрыятычна настроенага грамадства як Польшчы, так і Беларусі, прадстаўнікі якой (шляхта) лічылі сябе палякамі. Многія сталі шукаць сродкі, якія павінны былі, на іх думку, "аздаравіць грамадства і ўзняць польскі народ, польскую культуру і польскую дзяржаўнасць". "Хаця мы без Польшчы, аднак мы ў Польшчы",— гаварылі беларускія шляхцічы. Твары польскай і апалячанай беларускай шляхты з надзеяй павярнуліся да Вільні — сталіцы былога Вялікага Княства Літоўскага.

На пачатку 1803 г. Аляксандр I, які вёў палітыку "мяккай" асіміляцыі далучаных заходніх земляў, зацвердзіў новае палажэнне ў галіне асветы і адукацыі. Згодна яму, у прыватнасці, Галоўная школа Вялікага Княства Літоўскага, якая існавала з XVI ст. у Вільні, была пераўтвораная ва універсітэт, якому былі нададзеныя правы расійскіх універсітэтаў. Згодна з тагачаснымі законамі, статут універсітэта 1803 г. паставіў яго на чале аднachасова ўтворанай з ім (універсітэтам) Віленскай навучальнай акругі. У склад акругі ўваходзілі навучальныя ўстановы Валынскай, Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Кіеўскай, Магілёўскай, Менскай і Падольскай губерняў, а з 1810 г. і Беластоцкай вобласці.

На чале акругі быў пастаўлены куратар (папячыцель). Ім стаў польскі магнат князь Адам-Ежы Чартарыйскі, які, карыстаючыся сяброўствам з Аляксандрам I, спадзяваўся, што яму ўдасца ажыццявіць сваю мару — аднавіць спачатку Польшчу, а потым і Рэч Паспалітую. Віленскі універсітэт і навучальныя ўстановы Віленскай навучальнай акругі зрабіліся ў руках А.Чартарыйскага і яго паплечнікаў-аднадумцаў галоўнай зброяй палітыкі выхавання падрастаючага пакалення Беларусі, Летувы і Украіны ў духу польскага патрыятызму. Навучанне вялося на польскай мове, беларуская мова і беларускае друкаванае слова не ўжываліся. Яны былі пазбаўлены права на самастойнае існаванне як з боку кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, так і з боку расійскага царскага ўрада. Як польскія, так і расійскія вялікадзяржаўныя шавіністычныя колы размывалі, такім чынам, нацыянальны патэнцыял беларускага народа.

З утварэннем Віленскай навучальнай акругі на Беларусі актывізуецца маладзёжны рух, у прыватнасці сярод вучняў школ і гімназій. Ён меў культурна-асветніцкі накірунак у спалучэнні з палітычным і ставіў за мэту праз адукацыю і асвету выхаваць патрыятызм і, тым самым, захаваць сярод шляхецкай моладзі Беларусі польскую нацыянальную ідэю — адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

Асабліва вучнёўскі рух актывізуецца пасля 1807 г., што мела пад сабой рэальную аснову. Ён быў звязаны, перш за ўсё, з палітыкай французскага імператара Напалеона I ў адносінах да былой Рэчы Паспалітай. Напалеон, які ўжо бачыў сябе ўладаром Еўропы, распрацаваў планы заваявання Расіі. Каб аблегчыць сабе гэтую задачу, ён павёў палітыку, накіраваную на падтрымку і ўмацаванне ў польскай і беларускай шляхты надзеі на аднаўленне Рэчы Паспалітай.

У канцы 1806-га — пачатку 1807 гг. Напалеон стварыў з часткі польскіх земляў, якія адышлі да Прускага каралеўства пасля падзелу Рэчы Паспалітай і якія на гэты час былі ім (Напалеонам) акупаваныя, Герцагства (Княства) Варшаўскае і тым самым "даў надзею на аднаўленне Польшчы", Рэчы Паспалітай.

Гэтая падзея з'явілася імпульсам для ажыўлення польскага патрыятызму сярод вучнёўскай моладзі Беларусі. Так, адзін з вучняў Віленскай гімназіі пісаў у 1807 г.: "...Напалеон, жадаючы выканаць сваё абяцанне (адрадзіць Рэч Паспалітую — **С.Т.**), разбіў непрыяцельскія войскі (арміі Прусіі і Расіі — **С.Т.**), увасхрасіў імя паляка, утварыў Княства Варшаўскае. Тым самым ён абнадзеіў нас у паспяховым заканчэнні пачатай справы".

Натхнёныя ўтварэннем Герцагства Варшаўскага вучні Маладзечанскай павятовай школы пісалі на дошках: "Няхай жыве Напалеон!".

Прыкладна ў гэты час, як сведчыць сучаснік, у Нясвіжы "гімназісты і школьнікі вялікімі партыямі, пад кіраўніцтвам даміканскіх манахаў, хадзілі па гораду з барабанным пошчакам і ваяўнічымі выкрыкамі, неслі на шэстах стракатыя хусткі ў выглядзе сцягоў".

Не засталіся ўбаку і вучні Навагрудка, дзе ў пачатку 1809 г. узнік "Корпус вучняў павятовай школы", які аб'ядноўваў каля 100 навучэнцаў. Гэта была легальная забаўляльная вайскова-спартыўная арганізацыя. Яна ставіла за мэту праз вайсковыя спаборніцтвы — "бітвы", паходы, практыкаванні — захаваць польскі накірунак у патрыятычным выхаванні мясцовай моладзі. У складзе "Корпуса" існаваў аматарскі вучнёўскі тэатр, у якім ставіліся п'есы на польскай мове. Яны ў алегарычнай форме ўсхвалялі "слаўных палякаў" — польскіх палкаводцаў і каралёў, а таксама Напалеона, як будучага аднавіцеля Польшчы, Рэчы Паспалітай. Вучні ў сваім асяроддзі чыталі лекцыі аб вайне і "гулялі ў войска". З траўня 1810 г. адбылася сутычка членаў арганізацыі з расійскімі афіцэрамі пад час святкавання вучнямі канстытуцыі 1791 г., у выніку чаго арганізацыя была забароненая.

Вайна 1812 г., у якой актыўны ўдзел (як на баку Расіі, так і на баку Напалеона) прыняла шляхта Беларусі, замежныя паходы расійскай арміі, і, нарэшце, утварэнне ў 1814-1815 гг. Царства (Каралеўства) Польскага ў складзе Расійскай імперыі з'явіліся новым штуршком у актывізацыі польскага патрыятычнага руху на Беларусі. Назіраюцца больш смелыя ўчынкі вучнёўскай моладзі, якой здавалася, што ўтварэнне Царства Польскага — апошняя прыступка ў справе адраджэння Польшчы, а потым і Рэчы Паспалітай. У Маладзечне, у павятовай школе ў 1813 г. узнікае легальная арганізацыя "Войска Марса і Апалона", якая аб'ядноўвала 40 вучняў (у 1815 г. — 58) — дзяцей дробнай і сярэдняй мясцовай шляхты. Таксама, як і навагрудскі "Корпус", "Войска" мела забаўляльны спартыўна-вайсковы характар. Вучні падзяліліся на два атрады: армію Напалеона і армію Расіі, паміж якімі адбываліся імправізаваныя бітвы. Члены арганізацыі бралі імёны "багатыроў старажытнасці" палякаў Баляслава Харобрага, Юзэфа Панятоўскага і інш. Найбольш актыўных у "бітвах" адзначалі ордэнамі ў выглядзе крыжа з надпісам па-польску "Святая Міласць Айчыны". Пад Айчынай мелася на ўвазе Рэч Паспалітая.

Разам з тым у дзейнасці арганізацыі ярка акрэслены быў і культурна-асветніцкі накірунак. Гэта з'яўлялася яшчэ адной формай захавання польскага патрыятызму.

Пра накірунак у культурна-асветніцкай дзейнасці арганізацыі дае ўяўленне літаратурная дзейнасць аднаго з будучых заснавальнікаў таварыства філаматаў і філарэтаў Т.Зана, які ў 1813-1814 гг. вучыўся ў Маладзечанскай школе. Ён быў ініцыятарам пастановак розных сцэн, у якіх фігуравалі такія, напрыклад, словы: "мы ў няволі (расійскай — **С.Т.**), шчаслівы той, хто можа аддаць жыццё за Айчыну (Польшчу, Рэч Паспалітую — **С.Т.**). О, няшчасная наша, палякі, краіна". У сваіх прамовах Т.Зан заклікаў да дапамогі Напалеону, "калі пачнецца вайна". Яна, на яго думку, дапаможа ім збавіцца ад расійскага панавання. Гэты, а таксама шэраг іншых твораў, напісаных Т.Занам (у тым ліку і ў перыяд вучобы ў Маладзечне), даюць падставу сцвярджаць, што і ён, і члены "Войска Марса і Апалона" лічылі сябе палякамі і іх патрыятызм быў накіраваны на аднаўленне Рэчы Паспалітай.

У 1819-1820 гг. у Свіслацкай гімназіі (Гарадзенская губ.) існавалі тайныя вучнёўскія гурткі "Навуковы" і "Маральны", члены якіх — дробнапамесныя беларускія шляхцічы — таксама ставілі за мэту праз "узаемную асвету, патрыятычныя думкі ў польскім духу, успаміны пра слаўных дзеячаў былой Польшчы" захаваць адданасць агульнай радзіме — Рэчы Паспалітай. Так, члены гуртка "Навуковы" на сваіх пасяджэннях гаварылі аб Рэчы Паспалітай, якую падзялілі паміж сабой Расія, Аўстрыя і Прусія. Адзін з членаў гуртка, Д.Шлаеўскі, казаў, што "трэба спачываць няшчасцям, якія здарыліся з польскай нацыяй і якія прывялі да яе заняпаду". Галоўную віну за падзелы члены арганізацыі ўскладалі на Расію. Пераняўшы польскую культуру і польскі лад жыцця, яны не бачылі розніцы паміж польскай і беларускай шляхтай, таксама лічылі сябе палякамі.

Выхаваннем патрыятызму на прыкладах жыцця і дзейнасці вядомых польскіх дзяржаўных дзеячаў і палкаводцаў займаліся і члены гуртка "Маральны". Так, у вершы, напісаным сакратаром арганізацыі I.Качальскім і прысвечаным Юзэфу Панятоўскаму, апошні ўслаўляецца як дзяржаўны дзеяч, які ў 1812 г. выступіў на баку Напалеона супраць Расіі і пад кіраўніцтвам якога польскі корпус атрымаў у гэты час шэраг перамог над расійцамі.

Канстытуцыя 3 траўня 1791 г., згодна якой "Рэч Паспалітая абодвух народаў" (Польшчы і ВКЛ) ператваралася ў "Рэч Паспалітую Польскую" (г.зн. ва унітарную дзяржаву), таксама была сродкам выхавання польскага патрыятызму ў вучняў беларускіх губерняў.

20-я гады XIX ст. былі гадамі, калі ў Расіі дэмакратычна настроенае афіцэрства і цывільныя асобы шукалі шляхі для ўсталявання больш дасканалай формы дзяржаўнага кіравання ў краіне. Крыху пазней яны аб'ядналіся ў тайныя таварыствы, якія ўвайшлі ў гісторыю як дзекабрысцкія.

Менавіта ў гэты час, пад уплывам актывізацыі грамадска-палітычнага руху ў Расіі, на Беларусі ажывае патрыятычны маладзёжны рух. Прыкладам таму з'яўляецца існаванне тайных вучнёўскіх арганізацый у Беластоцкай і Свіслацкай гімназіях, якія насілі агульную назву "Заране". Кіраўнік беластоцкіх "Заран" Ф.Ляховіч, які ў 1823 г. заснаваў тут гэта таварыства, так тлумачыў яго назву: "Святло зары з'яўляецца папярэднікам сонечных промняў. Мы з'яўляемся святлом зары, калі нават не будзе нам наканавана ўбачыць промні сонечныя, то людзі будуць ведаць аб нас, што мы існавалі і пракладвалі дарогу сонцу". Ф.Ляховіч даў зразумець, што вучні, якія ўвайшлі ў склад арганізацыі, будуць, у меру сваіх магчымасцяў, змагацца за аднаўленне сваёй краіны - Польшчы, пад якой ён разумеў Рэч Паспалітую. Вучні, "прынятыя ў таварыства, атрымлівалі асобыя "прозвання", якія даваліся па прозвішчах вядомых палякаў, каб успамінамі іх імён узбудзіць пачуцці патрыятызму ў членаў таварыства". "Заране" бралі сабе прозвішчы Баляслава Харобрага, Стэфана Баторыя, Юзэфа Панятоўскага і іншых польскіх дзеячаў. За сувязь з культурна-палітычнай арганізацыяй дзекабрысцкага тыпу "Таварыствам ваенных сяброў" амаль усе "Заране" былі арыштаваныя.

Разбурэнне этнічнай самасвядомасці патэнцыяльных сіл беларускага нацыянальнага адраджэння прыхільнікамі польскасці хутка дапоўніцца не менш моцнай і жорсткай русіфікацыяй, якую распачне расійскі царызм. Беларусь апынецца паміж двух агнёў. А следам на сем з лішнім дзесяцігоддзяў накладзе свой адбітак на беларускае грамадства бальшавізм.

У выніку аказаліся моцна падарванымі універсальныя сімвалы самасвядомасці беларусаў, носьбіты іх духоўнасці — родная мова, аўтэнтычны фальклор, традыцыйны нацыянальны лад жыцця. Вось чаму, нягледзячы на ўсе намаганні нашай перадавой інтэлігенцыі, працэс адраджэння, як падкрэсліў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, "ідзе марудна, таму што адразу натыкнуўся на моцныя сілы процідзеяння, сілы, якія хацелі б павярнуць кола гісторыі назад. Яны апіраюцца на тое, што ёсць нашай вялікай беларускай бядой — на слабую нацыянальную самасвядомасць беларусаў".

**Сяргей ТАЛЯРОНАК.**
г.Менск.

# “Калі я ёсць беларус...”

*З вядомым беларускім мастаком Уладзімірам Вішнеўскім гутарыў наш пазаштатны карэспандэнт.*

**— Уладзімір Мікалаевіч, Вы прафесійны мастак, акадэмік Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, загадчык кафедры графікі нашай акадэміі. Вашы поспехі ў станковай і кніжнай графіцы відавочныя. Цікава, як Вы, вясковы чалавек, прыйшлі ў мастацтва?**

— У дзяцінстве я любіў маляваць. У нас на Случчыне былі самадзейныя мастакі, якія малявалі дываны, яны мяне вельмі ўражвалі. Маім бацькам, якія бачылі маё захапленне, неяк трапілася на вочы аб'ява, што ў Менску ёсць мастацкая школа-інтэрнат, і я туды паступіў. Тады там выкладалі маладыя, захопленыя сваёй справай настаўнікі — Свентахоўскія, Шчамялёў і іншыя, якія і прывілі мне любоў да мастацтва графікі. Таму я пасля мастацкай школы паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут на кафедру графікі.

**— А што на Вас больш за ўсё паўплывала як на творчую асобу?**

— Нейкай пэўнай зоркі, якая вяла б мяне ў дзяцінстве, назваць не магу, акрамя як згаданых маляваных дываноў. Магчыма, у пэўным сэнсе на мяне паўплывала тое, што ў нас, як толькі надыходзіла зіма, усе сядалі за кросны. У кожнай хаце стаяў станок, і жанчыны ткалі посцілкі, рушнікі, настольнікі. Жанчыны патаемна спаборнічалі паміж сабой — хто вытча лепшую, прыгажэйшую рэч. У мяне і мама ткала, і бабуля ткала. Яны стваралі асаблівы, казачны свет, і гэта не магло не ўплываць на маю душу. А яшчэ мама цудоўна вышывала, пляла карункі. Думаю, менавіта ад яе мне перайшло адчуванне прыгожага. Хаця ў мяне і прадзед быў цудоўным майстрам. Відаць, род наш быў такі. Вось нядаўна ў царкве я ўбачыў абраз, укрыжаванне, падпісаны Міхалам Вішнеўскім. Падумалася — можа, і ён нашага роду? Магчыма, але мне так і не ўдалося высветліць, ці мае ён якое дачыненне да нашай сям'і.

**— Уладзімір Мікалаевіч, апошнім часам Вы актыўна і плённа займаецеся мастацкім афармленнем кніжак для дзяцей. Што Вас прывабіла да жанру кніжнай графікі?**

— Мабыць, магчымасць увайсці ў свет дзіцяці, паўплываць на фармаванне дзіцячых густаў, на выхаванне дзяцей. А пачалося з таго, што пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік даў мне пачытаць рукапіс сваёй кнігі “Янка і Ружа”. Твор мне вельмі спадабаўся, асабліва тое, як там увязана гісторыя Беларусі. Да таго ж, вельмі паэтычна ўплецена геаграфія. І мне захацелася кнігу праілюстраваць.

**— А які ў Вас падыход да кніжнай ілюстрацыі, якая ў Вас канцэпцыя?**

— У мяне такая пазіцыя — мастак не павінен проста ісці за радком. Я стараюся ісці паралельна з аўтарам, імкнуся ствараць паралельны свет. Ілюстрацыя падаецца ў кантэксце кнігі, і чытач па-свойму гэта ўспрымае, стварае свой вобраз.

**— Чым Вас зацікавіла кніга для дзетак “Ці вернецца князь Кук?”**

— Гэта зноў жа кніжка Уладзіміра Ягоўдзіка. Вельмі своеасаблівая. Яна ўяўляе сабой апісанне не арнітолага, а простага чалавека, які расказвае дзіцяці пра птушак. Аўтар паставіў задачу паказаць мастацкі вобраз не толькі жывёл ці птушак, а і асяроддзе. І ў той жа час каб гэта было натуральна.

**— Якія кніжкі складаней ілюстраваць — для дзяцей ці для дарослых?**

— Вядома, складаней працаваць для дзяцей. Тут існавала шмат тэндэнцый і плыняў. Многія кнігі зроблены пад спрошчаны дзіцячы малюнак. Цяпер мастакі, якія сур'ёзна працуюць у кніжнай ілюстрацыі, звяртаюць больш увагі на вобразны бок, уносяць свой унутраны свет у малюнак.

**— Уладзімір Мікалаевіч, калі выбіраць, кнігу якога беларускага пісьменніка Вы хацелі б аформіць?**

— У нас шмат таленавітых і любімых мной пісьменнікаў. Я люблю Дастаеўскага. Лічу, што ён беларус. Ён роду беларускага і мысленне ў яго беларускае. Люблю Караткевіча, хаця яго вельмі не проста афармляць. Мне вельмі падабаецца Багдановіч. З сучасных пісьменнікаў — Гілевіч, Разанаў, Мележ. “Людзі на балоце” апошняга — проста каласальны твор.

**— Калі глядзіш на Вашы працы, то відаць, што гэта творы беларускага мастака. Як Вам удаецца ўвасабляць у сваіх творах беларускі менталітэт?**

— Не ведаю. Калі я ёсць беларус, то і мастацтва маё павінна быць беларускім. Гэта, відаць, са мной народжанае. Спецыяльна для гэтага я нічога не раблю, усё адбываецца на нейкім генетычным узроўні.

**Распытвала Вольга ПАЗНЯК, студэнтка БАМ.**

# Кола сям'і

***Масару ІБУКА***

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

Многія бацькі захацелі б выхаваць дзіця творчай асобай. Але баюся, што сучасная сістэма выхавання творчага пачатку з ранняга ўзросту недастаткова эфектыўная.

Што такое творчасць?

Цяжка даць дакладнае вызначэнне, але ў найпростым сэнсе — гэта вольны палёт уяўлення, гэта абвостраная інтуіцыя, якія могуць выліваецца ў вынаходніцтвы і адкрыцці. На гэтым вышэйшым узроўні творчасці інтэлект, эрудыцыя і ўяўленне злітыя ў адно. Не выклікае сумненняў той факт, што поспехі творчасці ідуць карэннямі ў суб'ектыўнае эмацыйнае ўспрыняцце і досвед ранняга дзяцінства. Іншымі словамі, дзіцячыя фантазіі, якія здаюцца дарослым такімі далёкімі ад рэальнага жыцця, на самой справе з'яўляюцца зародкамі творчасці.

Напрыклад, вы дасцё дзіцяці цацку, скажам, у выглядзе нейкай жывёлы. Дзіця можа ідэнтыфікаваць сябе з гэтай жывёлай, сачыніць пра яе цэлую гісторыю на падставе нейкага рэальнага вопыту ці казкі, якую яно чула. Ці, напрыклад, якая-небудзь карціна можа распаліць яго ўяўленне да такой ступені, на якую дарослыя проста не здольныя. Гавораць, Леанарда да Вінчы ў дзяцінстве бачыў вядзьмарак, якія лёталі пад столлю, і ўсялякіх пачвараў, што варушыліся сярод плямаў і трэшчын на столі.

Дарослы малюе чайнік, а дзіця бачыць у малюнку рыбу з разяўленым ротам. Дарослы можа ўпікнуць дзіця: “Не кажы глупстваў, гэта чайнік”. Такі адказ будзе памылкай, і ён раўназначны знішчэнню пупышкі, ужо гатовай расцвісці.

### Развівайце ў дзіцяці інтуіцыю (шостае пачуццё)

Мы ведаем, што ў чалавека ёсць пяць пачуццяў: зрок, слых, адчуванне смаку, паху і дотыку. Але ў яго ёсць і шостае пачуццё — інтуіцыя. Дзякуючы шостаму пачуццю многія жанчыны, напрыклад, беспамылкова даведваюцца пра здраду мужа. Але калі казаць сур'ёзна, інтуіцыя — важная ўмова любога значнага дасягнення. Усе вялікія вынаходнікі пакладаліся на сваю інтуіцыю, нягледзячы на свае велізарныя веды і досвед. Інтуіцыя перакрывае ўсе пяць пачуццяў і, такім чынам, з'яўляецца самым старажытным і фундаментальным пачуццём. Інтуіцыю таксама называюць “жывёльным інстынктам”, які выходзіць за межы логікі і здаровага сэнсу.

Я ўжо казаў, што дзіця да трох гадоў вельмі блізкае да жывёлы, і меў на ўвазе, што яно яшчэ нездольнае лагічна мысліць і абапіраецца на свае інстынкты. Вельмі важна памятаць пра гэта і заахвочваць развіццё яго інстынктаў, і ўжо ва ўсялякім выпадку не прыгашваць іх, калі прывіваеце яму навыкі і спрабуеце ўздзейнічаць на яго логікай і доказамі розуму. Больш таго, паколькі інтуіцыя — гэта сукупнасць усіх пяці пачуццяў, развіццё інтуіцыі абвастрае і ўсе пачуцці.

### Ці патрэбныя палавыя адрозненні ў выхаванні дзіцяці

Калі бацькі мараць, кім стане іх дзіця, яны ўлічваюць яго пол: “Ён будзе палітыкам ці вучоным!”, “Спадзяюся, яна будзе прыгажуняй і разумніцай!” Чаму ж мы па-рознаму адносімся да новanароджанага хлопчыка ці дзяўчынкі?

На самай справе да трох гадоў між паламі ў фізічным абліччы няма вялікай розніцы. Часам мы нават чыста знешне не можам іх адрозніць. У некаторых мовах маленькае дзіця і ўвогуле ўжываецца ў ніякім родзе. Навука таксама лічыць, што палавыя адрозненні пачынаюць праяўляцца пасля трох гадоў. Вядомы дзіцячы псіхолаг Ван Арнштэйн правёў серыю даследаванняў, з якіх зрабіў выснову, што толькі пасля трох гадоў паводзіны дзіцяці пачынаюць адлюстроўваць палавую прыналежнасць, а ўжо ва ўзросце чатырох ці пяці гадоў дзеці выразна праяўляюць свой пол у гульнях. Такім чынам, да трох гадоў толькі форма палавых органаў указвае на адрозненне між паламі.

Нягледзячы на гэта, бацькі выхоўваюць дзіця з улікам яго полу. Напрыклад, нованароджанага хлопчыка апранаюць ва ўсё блакітнае, а дзяўчынку — у ружовае. Свайго густу ў малечы пакуль што няма. І што дрэннага ў тым, калі б хлопчык насіў ружовае адзенне, а дзяўчынка гуляла б з цацачным пісталетам? Ці трэба адбіраць у хлопчыка ляльку, калі ён праявіў да яе цікавасць? Нашто ўвесь час нагадваць яму, што ён хлопчык? І чаму дзяўчынка не можа зацікавіцца барацьбой?

Нямецкага паэта Рыльке выхоўвалі, як дзяўчынку, нават апраналі ў жаночае адзенне. Але ад гэтага ён не вырас падобным да жанчыны. Замест таго, каб турбавацца, як бы дзяўчынка не вырасла мужападобнай, а хлопчык — падобны да жанчыны, лепей было б бацькам усвядоміць, якую шкоду яны наносяць псіхіцы дзіцяці, калі навязваюць яму свае ўяўленні пра палавыя адрозненні.

*(Працяг будзе.)*

## Як на дзіцячы розум...

***

Бабуля пытаецца ў Віталіка (4 гады): “Навошта ты, унучак, перакуліў вядро, у якое я сабрала каларадскіх жукоў?”

— Я падумаў, што яны табе непатрэбныя, бо ты паставіла вядро пасярод агарода.

***

Едуць у аўтобусе бабуля з унукам з пошты, дзе ім не выдалі пенсію (не хапіла грошай). Гледзячы на рэкламны плакат, на якім дзяўчына толькі ў блузцы, хлопчык кажа:

— Бабулечка, бачыш: ёй таксама не хапіла грошай на спаднічку, як мне на цукеркі.

**БЫВАЛЫЯ ЛЮДЗІ**

Да бабулі падыходзяць, узяўшыся за рукі, двое ўнукаў: яму 4 гады і ёй 2. Ён пытаецца:

— Што ты робіш?

Бабуля адказвае:

— Кармлю расліны борам.

На што ён кажа:

— Не чуў я, каб кармілі борам.

І яна ўслед прапела, бы ў оперным дуэце:

— Не цюла я, каб борай кармілі.

**Запісала Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**

*Здароўе*

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

## Сардэчны вітамін

*(Працяг.)*

На падставе анкетаў часопіса “Prevention” (больш за 1,5 млн. падпісчыкаў) навукоўцы сцвердзілі, што лепшыя вынікі дало шматгадовае лячэнне такаферолам. Прыкладам, з ліку 80-89-гадовых людзей, каторыя прымалі вітамін Е цягам 20-29 гадоў, 85,6 прац. цалкам пазбавіліся сардэчных хваробаў. А сярод тых, хто лячыўся такаферолам менш года, добрых вынікаў дамагліся 71,8 прац. Значна лепш пачалі пачуваць сябе 90-99-гадовыя. Пасля шматгадовага спажывання вітаміну Е колькасць вылечаных сягала 100 прац. Пра добрыя вынікі лячэння паведамілі ў часопіс больш за 80 прац. 60-69-гадовых чытачоў.

Заўважана, што сярод 50-59-гадовых жанчын было шмат такіх, хто яшчэ не пэражыў менапаўзы. Такім чынам, пацвердзілася меркаванне, што палавыя гармоны, асабліва эстрагены, выконваюць ахоўную функцыю. Таму і выпадкаў смерці жанчын з прычынаў сардэчных хвароб прыблізна ў два разы менш, чым у мужчын таго ж веку.

### Выяўленыя таямніцы

Старэнне эрытрацытаў — чырвоных цельцаў крыві — прыспешвае ўздзеянне святла і кіслароду. У выніку акіслення, якое аслабляе клетачную мембрану, эрытрацыты выглядаюць нібы вялымі, скурчанымі.

Лічылі, што мембрана — гэта толькі від апакавання клеткі. Ды выявілася, што яны надзвычай складаныя па сваёй структуры ды хімічным складзе ўтварэнні. Яны ізалююць клеткі адна ад другой, але, маючы селектыўную (выбарную) пранікнёнасць, ствараюць магчымасць транспартыроўкі розных ёнаў ды ўнутрыклетачнага рэчыва. Да таго ж у саміх мембранах назапашваюцца ферменты, што ўдзельнічаюць у працэсе ўзбуджэння і рэакцыі на яго, а таксама ферменты, якія ўдзельнічаюць у пераўтварэнні энергіі, прыкладам, пад час фотасінтэзу. Таму, вядома, змены ў мембраннай структуры адбіваюцца на любых працэсах унутры клеткі. Адсутнасць нейкага мембраннага кампанента або ягонае змяненне вядзе да захворвання. Нармальнае функцыяванне клеткі пачынаецца з нармальнай мембраны, бо толькі такая зможа прапусціць ці затрымаць неабходнае або шкоднае рэчыва. Можна толькі ўявіць, колькі хваробаў з'яўляецца і залежыць ад стану клеткавых мембранаў.

Доктар Джэфры С.Блэнд з універсітэта ў горадзе Такома (штат Вашынгтон) вырашыў дазнацца, якая ж роля такаферолу ў працэсе насычэння кіслародам клетак, у прыватнасці эрытрацытаў. Ён даваў ахвотным штодня па 600 м.а. вітаміну Е цягам 10 дзён. І пасля даследаваў вынікі ўздзеяння кіслароду і святла на кроў. Яна заставалася практычна здаровай, толькі нязначная колькасць эрытрацытаў гінула, у той час як у безтакаферольных паддоследных яны гінулі цалкам. Доктар Блэнд вызначыў, што верагодна аптымальная доза вітаміну Е — 400-600 м.а. Дарэчы, у некаторых выпадках гэтая колькасць можа быць недастатковай.

Лячэнне такаферолам дае добрыя вынікі ў выпадках так званай перамежнай кульгавасці (перемежающейся хромоты), калі людзям, пераважна старым мужчынам, дакучае боль і сутаргі ў нагах пасля працяглай хадзьбы,— чалавек пачынае кульгаць. Такі стан — яшчэ не хвароба, але сігнал, што ў нажных артэрыях штосьці не тое дзеецца. Пераважна гэта першы сігнал заўчаснага склерозу крывяных начынняў. Першым стаў лячыць вітамінам Е такія станы доктар Шут. І вынікі былі вельмі добрымі. У некаторых іншых дактароў лячэнне не было ўдалым. Як пазней выявілася, яны давалі сваім пацыентам толькі прахрошчаную пшаніцу: пры падліках пераканаліся, што тыя спажывалі не больш за 150 м.а. такаферолу, а неабходна атрымліваць 400 м.а. Да таго ж, станоўчы вынік з'яўляецца пасля 3-4-х месяцаў лячэння.

Падобны эфект наглядаецца і ў выпадках начных сутаргаў нажных мышцаў, калі чалавек ад болю прачынаецца. Паляпшэнне адчуваецца ўжо пасля спажывання 300-400 м.а. такаферолу цягам тыдня.

Варта дадаць, што прахрошчаную пшаніцу і чысты такаферол трэба спажываць за паўгадзіны — гадзіну перад ядой. І, як ужо згадвалася, неабходна сачыць, каб у ежы не было жалеза ці прэпаратаў з гэтым элементам, ачышчальных сродкаў ды лекаў ад хваробаў шчытападобнай залозы. Таксама і стравы з алеем вымагаюць павелічэння колькасці спажывання такаферолу.

*(Заканчэнне будзе.)*

*Зялярскія гутаркі*

## Яблык

“Які яблык сакавіты, нібы мёдам ён наліты”. Ды хоць і не мёдам, а вадою (яе ў свежым амаль 83 адсоткі), усё ж і больш карысных рэчываў у яблыневым плодзе нямала: арганічныя кіслоты — яблычная, лімонная, вінная; цукар — глюкоза, фруктоза, цукроза; вітаміны А і В, карацін (правітамін А); дубільныя рэчывы — галавая кіслата, тэагалін, эфірны алей; “тлустыя” кіслоты — воцатная, прапіёнавая, ізамасляная, масляная ды іншыя. Маюць яблыкі вельмі вартасныя пекцінавыя рэчывы, солі кальцу, жалеза (увага! — тым, хто будзе лячыцца вітамінам Е), фосфару. Увогуле ў яблыках выяўлена 28 мікраэлементаў, у тым ліку медзь, манган, магнэз, кобальт.

Сакаўныя плады раяць спажываць усім — здаровым і хворым. Вялікая колькасць клятчаткі спрыяе нармальнай перыстальтыцы кішэчніка: трэба есці нашча сырыя або печаныя яблыкі. Варта згадаць, што яблычная кіслата стымулюе ўтварэнне АТФ (адзіназінтрыфосфарная кіслата) — рэчыва, якое з'яўляецца адной з крыніц энергіі для мышцаў. Яблычны сок раяць піць ад хваробаў мочавага пухіра, нырак, печані, атэрасклерозу, хранічных поліартрытаў, бранхітаў. Ды лепш згадаць словы амерыканскага доктара Франкліна, які сказаў, што калі чалавек будзе есці адзін яблык штодня, то яму не патрэбны будзе доктар.

**Зяляр.**

